 

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

№ 4 (569) ГОД XII 22 СТУДЗЕНЯ 1967 г. ЦАНА 60 гр.



## З ЖЫЦЦЯ БГКТ

### ПЛАН НА ПЕРШАЕ ПАЎГОДДЗЕ

5 студзеня прэзідыум гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку зацвердзіў план дзейнасці на першае паўгоддзе 1967 года.

Вяліся і далей будуць прадаўжацца наступныя дзялянкі культурна-асветнай працы. І так, а) два разы ў тыдзень далей будуць адбывацца заняткі ігры на акардэонах для дзяцей, б) рэпетыцыі хора, в) заняткі новастворанага драмгуртка, г) ёлка для дзяцей, д) раз у тыдзень высвятленне савецкіх фільмаў, е) раз у месяц аўтарскія сустрэчы або гутаркі на вызначаныя тэмы, ё) арганізаванне фотавыставак з жыцця Савецкай Беларусі і СССР, ж) урачыстыя пасяджэнні (акадэміі) ў сувязі з гадавінамі, з) далей у чытальні будуць працягвацца агляды праграм варшаўскага і мінскага тэлебачання, чытанне прэсы, карыстанне бібліятэкай аддзела, гульні ў шашкі, шахматы, більярд.

Ёсця таксама шмат запланаваных новых мерапрыемстваў.

У сувязі з 25-ай гадавінай з дня заснавання Польскай рабочай партыі (ППР) у студзені будзе арганізаваны вечар сустрэчы і ўспамінаў з былымі ППР-аўцамі.

У студзені таксама Беластоцкі гарадскі аддзел адзначыць 75-ую гадавіну з дня нараджэння правадыра Беларускай сялянска-работніцкай Грамады — Браніслава Тарашкевіча. У сувязі з гэтай гадавінай адбудзецца ўрачыстае пасяджэнне.

Згодна з планам, у лютым закончыцца конкурс на падпіску «Нівы» ў горадзе Беластоку, адбудзецца вечар успамінаў пенсіянераў — удзельнікаў рабочага руху і арганізуецца спатканне з былым партызанскім камандзірам на Беласточчыне Дзмітрам Карповічам.

У сакавіку аддзел арганізуе вельмі патрэбную і карысную сустрэчу, а менавіта, сустрэчу з моладдзю, навучэнцамі сярэдніх школ, якія прышлі ў Беласток з вёсак. Толькі тых, якія навучаліся ў пачатковых школах беларускай мовы, налічваецца ў Беластоку больш 800. Да гэтага часу нічога не рабілася, каб прыцягнуць іх да БГКТ.

З цікавейшых мерапрыемстваў красавіка трэба назваць конкурс на беларускія песні ў горадзе Беластоку і даклад на тэму «Польска-савецкі дагавор аб дружбе і супрацоўніцтве».

У маі ў Польшчы адзначаюцца дні кніжкі, друку і культуры. У сувязі з гэтым аддзел арганізуе выстаўкі беларускіх кніжак і будзе адзначаць 450 гадавіну беларускага друку. У гэтым жа месяцы, згодна з планам, драмгуртон выступіць са сваім рэпертуарам.

У чэрвені аддзел арганізуе беларускі фестын — дзень беларускай культуры. Дзе гэта адбудзецца — будзе паведамленне пазней.

У гадавіну нападу Германіі на Савецкі Саюз на гэтую тэму адбудзецца даклад у памяшканні аддзела.

І гэта, у асноўным, усё. Трэба падкрэсліць, што план працы на першае паўгоддзе 1967 года даволі багаты, даволі разнастайны, працаёмкі і дакладна выканаць яго не так проста.

**М. Хмялеўскі**

## 75 год з дня нараджэння Б. ТАРАШКЕВІЧА



**20 студзеня г.г. спаўняецца 75 год з дня нараджэння слаўнага беларуса, кіраўніка Беларускай сялянска-работніцкай грамады, Браніслава Тарашкевіча. На нашым здымку Б. Тарашкевіч у 30 гадах. У сярэдзіне нумара чытайце ўспаміны былога вучня Б. Тарашкевіча.**

Дзіўна чуюся, калі пішу, што ў хаце павінна быць чыста, на панадворку павінна быць чыста, на вуліцы таксама і ў вёсцы. Няма такіх, хто скажа, што павінна быць брудна, усюды брудна.

І не здзіўлюся, калі хто абразіцца на мяне за гэтакія «прычопкі» з чысцінёю, бо чысціню разумеем мы проста, як чысціню за парогам, дзе замеценая падлога, кухня, пакой, памытыя талеркі, непаплямлены стол, засцеленыя ложкі і т.д.

Чысціню вяжам з імем гаспадыні, якая сварыцца на мужчын за нявыцертыя боты, з якімі нанеслі яны балота ў хату. Нават даем апінію аб гаспадыні па тым, як выглядае гаспадар:

— Добрую жонку мае!




Альбо:

— Кепскую жонку мае!

Гаворачы аб чысціні, думаем аб хаце. І тут наша памылка.

Чамусьці запомнілася мне вёска Гаркавічы. Быў я там у чыстых хатах, бачыў панадворкі, па якіх цяжка прайсці, калі пападае дождж, рыюцца парасяты, з хлявоў выцякае гной, пад калодзежам балота. Чыстыя хаты выдаваліся выспамі чысціні на возеры балота, маленькімі выспамі. Многія гэтыя выспы затапталіся ўжо ў панядзелак-аўторак, каб зноў паказацца ў перадсвяточную суботу.

Выспы, абсеўшыя мухамі.

Ведаем, у чым справа і пытаем: хто гэта мае зрабіць, каб панадворкі былі пабрукаванымі, каб з хлявоў не цякло, каб у калодзеж не крапіла брудам са шчылін паміж цэмбравінамі?

Хто?

Вядома, мужчыны! Трэба перайначыць пагаворкі на:

— Добрага мужа мае!

Альбо: — Кепскага мужа мае!

Гаспадыня, каб яна і трэснула, не ўтрымае чысціні ў хаце, калі ўсюды брудна і адусюль бруд.

Ужо бачу, як мужчынам не спадабаліся гэтыя перайначванні. Жывем у брудзе і хвалім гаспадынь у замеценых хатах, гаспадынь, якія і не падазраюць, што іх намаганні да чысціні, пераважна, дарэмныя і бязвыхадныя.

Гаркавічы ў Сакольскім павеце. У гэтым павеце існуе павятовы камітэт гігіенізацыі вёскі, існуе некалькі грамадскіх камітэтаў. Сакольскі павет быў, бадай, першым паветам ва ўсходняй Польшчы, праявіўшым зразуменне да вялікай важнасці чысціні. Напрыклад, у 1964 годзе актывісты гэтых саколкаўскіх камітэтаў давялі да ўпарадкавання 217 панадворкаў у сваіх вёсках, было пабудавана 560 нужнікаў — малавядомых дагэтуль, адрамантавана 541 іх, а таксама засаджана звыш дзесяці тысяч аздобных дрэўцаў, пабудавана 75 здаровых калодзежаў і тры глыбінныя студні. Гэта за адзін год, за 1964, навейшых

**(Працяг на стар. 4)**

## НАША ВЁСКА

# ДУБІНЫ

Вёска Дубіны заснавалася ў XVII стагоддзі, недзе паміж 1639 і 1670 гадамі (дакладная дата невядома) і заданнем яе была ахова Бельскай пушчы.

Так ужо складаецца, што гэтак званым культурным жыццём у вёсцы займаецца моладзь. У Дубінах заняліся ім старэйшыя. Гаворачы больш дакладна, заняўся ім мясцовы гурток вясковых гаспадынь, а больш за ўсё старшыня гуртка Ніна Янчук.

Гаспадыні як гаспадыні — народ гаспадарлівы, дакладны, працавіты. Узяліся яны тады і за грамадскую дзейнасць па-свойму. Пачалі менавіта ад спраў гаспадарскіх.

— На ўсё патрэба грошай, і ў культурнай дзейнасці таксама, — тлумачылі гаспадыні. А затым захацелі яны стаць сучаснымі гаспадынямі ды павучыцца сяго-таго ад іншых. Зрабілі тады супольны агарод, у якім вырошчвалі новую невядомую раней у Дубінах гародніну, як пятрушку, сельдэрэй і г.д. Апрача таго супольна закантрактавалі гектар ільну. Грошы, атрыманыя з продажу супольна вырашчаных культур, прызначылі таксама на супольную справу. Арганізавалі курс пячэння і гатавання, затым курс мясных вырабаў. Зразумела, курсы не мелі нічога супольнага з доўгімі ды нуднымі лекцыямі. На курс мясных вырабаў, напрыклад, гаспадыні купілі немалога кормніка, забілі, і практычна, паводле ўказанняў інструктара, спраўляліся з мясам. Зразумела, усё потым трэба было «паспрабаваць» (таксама супольна) і дубінскім гаспадыням было весела і прыемна.

Пры супольнай працы дубінскія жанчыны пачалі цікавіцца шырокім светам. Вось, для прыкладу, дажынкі. Цэнтральныя, у Варшаве. Іншая рэч слухаць справаздачу з дажынак па радыё, а іншая рэч — пабываць там самому і пабачыць. Дубінскія жанчыны пачалі ездзіць на варшаўскія дажынкі — штогод па 6—8 асоб. Мала таго, у мінулым годзе жанчыны арганізавалі за зароблення супольнай працай грошы экскурсію ў Варшаву, у якой прыняла ўдзел 40 асоб. Такім чынам усе члены дубінскага КГВ пазнаёміліся са сталіцай краіны, Варшавай. У гэтым годзе маюць намер пазнаёміцца з Кракавам, куды хочуць арганізаваць чарговую экскурсію.

— Хто бы падумаў, — кажуць старыя дубінскія бабулі, — што мы будзем раз'язджацца па ўсім свеце, от так сабе, для «распусты».

Дубінскія жанчыны не ўнікаюць грамадскай працы і працы грамадскім чынам. Часта без грошай дапамагаюць мясцоваму сельскагаспадарчаму гуртку.

**(Працяг на стар. 4)**

 

# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментары • Весткі

## СВЕТ

### ПАСЛАННЕ ДЖОНСАНА

Ужо сталася традыцыяй, што прэзідэнт ЗША на пачатку кожнага новага года выступае з пасланнем да народа. З вялікім зацікаўленнем чакалі на сёлеташняе пасланне, а гэта перад усім з погляду на в'етнамскую вайну і... унутраныя справы саміх амерыканцаў. Джонсан на гэты раз не запэўніў свайго народа, што ў хуткім часе в'етнамская вайна закончыцца. Гаварыў ён, што: «хацеў бы сказаць, што канфлікт закончаны, але, на жаль, не ведаю, калі ён можа закончыцца». У пасланні амерыканскага прэзідэнта значна менш было спраў аб рэформах. **Павелічэнне падаткаў на $6^{0}/_{0}$**, якое апавясціў Джонсан у пасланні і якое ахоплівае і прадпрыемствы і **паасобных грамадзян**, абазначае, што **вялікая амерыканская грамадскасць сталася ахвярай в'етнамскай вайны.**

### У ТАН ВОСТРА АСУДЖАЕ

Не падзяляе джонсанавай думкі генеральны сакратар ААН У Тан, які забраў голас у той жа дзень (10.I.67), што і амерыканскі прэзідэнт, у вельмі **вострых словах** асудзіў амерыканскую агрэсію і **высмеяў** афіцыяльную амерыканскую версію прычын канфлікту. Гаварыў ён, што: 1) Фронт народнага вызвалення Паўднёвага В'етнама не з'яўляецца інструментам Ханой, што 2) Абсалютна неабходным, пры ўмове ўсіх мірных крокаў, ёсць паўстрыманне бамбардзіровак і што 3) В'етнам абсалютна не мае стратэгічнага значэння заходнім краінам, аб чым гаварыў Джонсан у пасланні апраўдваючы перад народам брудную вайну.

### ВУЧОНЫЯ СУПРАЦЬ ВАЙНЫ

4000 амерыканскіх вучоных з 83 універсітэтаў выступіла да Джонсана з пісьмом, у якім дамагаюцца перапыніць бамбардзіроўку Паўночнага В'етнама, а група юрыстаў апавясціла, што амерыканцы знаходзяцца на в'етнамскай зямлі зусім бяспраўна.

### ЗАЯВА ПАТРЫЯРХІ АЛЯКСЕЯ

Маскоўскі патрыярх Аляксей у часе інтэрв'ю для аднаго з італьянскіх тыднёвікаў заявіў, што «сітуацыя праваслаўнай царквы ў Савецкім Саюзе была і ёсць зусім нармальнай».

### У КІТАІ

Цэлы свет з зацікаўленнем сочыць падзеі ў Кітаі. Справа ў тым, што зараз не маем нармальных крыніц інфармацыі. Аднак не гледзячы на гэта, можна сцвердзіць, што здарэнні ўваходзяць у найвышэйшую і вострую фазу. Калі «культурную рэвалюцыю» пачалі пераносіць у прадпрыемствы і вёскі, пачаліся сутыкненні між рабочымі і сялянамі, якія сталі ў абароне мясцовых партыйных камітэтаў, а «хунвейбінамі». Некаторыя дэпешы гавораць, што былі раненыя і забітыя, перад усім у Нанкіне і Шанхаі. Паводле даных, якія да нас даходзяць, у Кітаі ёсць тры асобы, якіх не крытыкуюць зараз, гэта: Мао Дзе Дун, Лінь Пяо і жонка Мао. (АК)

## БССР

### ЗАСЛУГІ

Два вялікія беларускія навуковыя цэнтры ўзнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга: гэта Беларускі Універсітэт і Беларускі палітэхнічны інстытут.

Так высокай узнагароды ўдастоены яны за заслугі ў развіцці беларускай навукі, за выдатную падрыхтоўку нацыянальных кадраў спецыялістаў.

### СЯМІДЗЕСЯЦІПЯЦІГОДДЗЕ

21 студзеня спаўняецца **Рыгору Шырме** семдзесят пяць год з дня нараджэння. Гэты дзень урачыста адзначыць беларуская культура.

З гэтай нагоды ў наступным нумары «Нівы» будзе змешчаны артыкул І. Нісневіча, вядомага знаўцы мастацтваў.

### З'ЕЗД

Адбыўся IV з'езд Беларускага тэатральнага аб'яднання. У з'ездзе прыняў удзел сакратар ЦК КП Беларусі, С. Пілатовіч.

Старшынёй праўлення Аб'яднання паўторна выбрана вядомая беларуская артыстка Л. Александроўская.

### ГРАНД = ВЯЛІКІ

Газета «Советская Белоруссия» апублікавала ўрыўкі аповесці пра беларуса Міхася Байко, актыўнага ўдзельніка Французскага Супраціўлення, якога ў годы вайны ў Францыі называлі Гранд Мішэль.

М. Байко жыве і працуе цяпер у Мінску.

### ПАПАЎНЕННЕ

Беларускі Дзяржаўны Акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы адкрывае двухгадовую вучэбна-тэатральную студыю без адрыву ад прадукцыі, для папаўнення артыстычнага складу Купалаўскага тэатра і другіх прафесіянальных тэатраў, і народных тэатраў Беларусі.

### ТАНКЕР

На Балтыйскім заводзе пабудавана танкер «Героі Брэста».

Карабель мае сваю песню «Вечны агонь», якую транслюецца па карабельнаму радыё, калі танкер уваходзіць у порт або выплывае.

### ФІЛЬМЫ

У мінскім кіно «Іскра» дэманстраваўся фільм «Крыжаносцы» (дзве серыі), а ў Тэатры юнага гледача ішоў спектакль «Варшаўскі набат».

### РЭДКАСЦЬ

Недалёка ад вёскі Замошша на Палессі ёсць участак зямлі, дзе расце, так званая, панційская азалія. Яе ўзрост, як сцвярджаюць вучоныя, мільён год. Яе вышыня 50—60 см. Гэта расліна амаль невядомая на зямным шары, вымерла яна вельмі даўно, а на Палессі захавалася. Цікава, што перасадка яе ў іншае месца не дае вынікаў, яна хутка гіне. Расце толькі вось на тым участку зямлі каля Замошша.

Цвіце буйнымі аранжавымі кветкамі, якія маюць рэзкі пах. Галінкі яе гнуткія, як парасткі прыбярэжных вербалозаў, не ламаюцца. (СЯ)

## ПОЛЬШЧА

### СЕЙМ

Прайшло ўжо паўтара года цяперашняй IV кадэнцыі Сейма. У гэтым перыядзе Сейм збіраўся 11 разоў на пленарных пасяджэннях, у часе якіх выступала 250 паслоў. Палата падняла 3 пастановы, у тым ліку аб 5-цігадовым плане на 1966—1970 гады, а таксама зацвердзіла 19 законаў. Агулам зацверджана звыш 550 польскіх пажаданняў. Прадстаўнікі сеймавых камісій зрабілі 93 выязды для вывучэння асноўных гаспадарчых, грамадскіх і культурных праблем.

### ПАМЁР ШЫФМАН

11 студзеня г.г. памёр выдатны арганізатар польскага тэатральнага жыцця, артыст, рэжысёр, стваральнік і шматгадовы дырэктар Польскага тэатра, выхаваўца некалькіх пакаленняў польскіх акцёраў Арнольд Шыфман. Пахаваны ў Алеі заслужаных на Павонзках.

### АБРАДЫ ПРАЦАЎНІКОЎ СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ

У днях 13—14 студзеня адбываўся ў Варшаве X з'езд Прафсаюза працаўнікоў сельскай гаспадаркі. У час абрадаў голас забраў між іншым міністр сельскай гаспадаркі Мечыслаў Ягельскі. Міністр прыпомніў, што ПГР-ы ў гэтай пяцігодцы згодна з планам павінны пабольшыць прадукцыю на $40^{0}/_{0}$ (у тры разы больш, чымсьці ўся сельская гаспадарка), пры чым таварная прадукцыя павінна пабольшыцца на $40—50^{0}/_{0}$. Колькасць рагатай жывёлы павінна ўзрасці на $26,1^{0}/_{0}$, малочнасць кароў — на $13,5^{0}/_{0}$ падвоіцца мае колькасць кваліфікаванага насення. На заканчэнне абрадаў прысутныя пастанавілі выслаць да Уладзіслава Гамулкі ліст, у якім абяцаюць прылажыць усе сілы, каб выканаць і перавыканаць заданні на 1966—1970 гады.

### ЭДВАРД ОХАБ У ЛОДЗІ

14 студзеня Старшыня Рады Дзяржавы Эдвард Охаб наведаў Лодзь, а наступна Кутна і Пабяніцы. У Пабяніцах прыняў ён удзел у святкаванні юбілею 150-годдзя ўзнікнення рабочага класа гэтага горада.

### ХІМІЯ

13 студзеня адбылася ў Варшаве нарада працаўнікоў хіміі. Прынялі ў ёй удзел перад усім прадстаўнікі навукова-даследчых інстытутаў і прадукцыйных прадпрыемстваў з галіны хіміі. Прадметам нарады было павелічэнне эфектыўнасці сродкаў на навукова-даследчую працу. З дакладам выступіў міністр хімічнай прамысловасці — Антоні Радлінскі.

### У 1967 ГОДЗЕ

Міністэрства лёгкай прамысловасці ў 1967 годзе выпусціць на рынак тавараў на агульную суму 60 мільярдаў злотых. Будзе гэта на $6,4^{0}/_{0}$ больш, чымсьці ў мінулым годзе. Пабольшыцца перад усім колькасць ткані з бавоўны і эляны, зменшыцца тымчасова колькасць тканіны з воўны. (п)

## ВАЯВОДСТВА

### СТУДЭНТЫ І НАВУКА

На Беласточчыне працуе 5 тысяч асоб з вышэйшай адукацыяй. У 1970 годзе мае быць два разы столькі. Патрэбны нам асабліва спецыялісты: па сельскай гаспадарцы, эканамісты, інжынеры і педагогі. Сярэдняе школьніцтва ваяводства вельмі патрабуе настаўнікаў іншаземных моваў, хіміі, фізікі, біялогіі, матэматыкі і фізкультуры.

Гэтыя патрэбы падказалі ЗМС і ЗМВ, каб навязаць кантакты са студэнтамі перад усім з Варшавы, якія б маглі пазнаёміцца з Беласточчынай і пасля скончэння вучобы прыехаць да нас на працу. У апошні тыдзень праз два дні была 50-асабовая група студэнтаў Варшаўскіх вышэйшых устаноў: Універсітэта, Палітэхнікі, ЗГГВ, СГПіС, Акадэміі фізкультуры, якая спаткалася з моладдзю ваяводства і яго ўладамі.

### 15 ГОД КЛІНІКІ ТУБЕРКУЛЁЗА

Ужо 15 год існуе пры Беластоцкай Медыцынскай Акадэміі Клініка туберкулёза, якая займаецца лячэннем і навуковымі доследамі ў гэтай галіне. 76 навуковых прац за гэты час было апублікаваных, клініка вывучыла 30 спецыялістаў. 10 год клінікай кіруе дац. др **Уладзіслаў Прэнгоўскі**, які адначасова святкуе сваё 30-годдзе лекарска-навуковай працы. Усяго найлепшага Юбіляту!

### ФЕСТЫВАЛЬ ПРАФСАЮЗАЎ

Культурны гадавы фестываль прафсаюзаў будзе закрыты ў лютым. Пераможцы атрымаюць разнародныя ўзнагароды.

### ЗІМА І СНЕГ

Беласточчына перажывае таксама цяжкасці зімы на дарогах. Не прайсці, не праехаць — і так бывае. Падобна найгорш дагэтуль бывала ў Замброўскім і Ламжынскім паветах. На дарогах працавала звыш сотні плугоў, спыхаркі, ад слізгавіцы ратавалі пяскаркі, рассыпачы і сотні рабочых.

### ДЗЕЦЯМ В'ЕТНАМА

Ад беластоцкай пачатковай школы № 23 выйшла ініцыятыва, каб з выпадку Новага года сабраць і пераслаць в'етнамскім дзецям падарункі. Заклік падхапіла моладзь з усяе краіны. Пачкі пойдуць да Гданьска, адкуль спецыяльным параходам у В'етнам.

### КОНКУРС НА НАЙЛЕПШУЮ ШКОЛЬНУЮ СВЯТЛІЦУ...

закончаны. Яго аб'явілі ў мінулым годзе Куратарыум і Метадычны асродак у Беластоку. Прызнана 13 грашовых узнагарод для кіраўнікоў святліц. Усіх школьных святліц у ваяводстве маем 62.

### СЯДАЙЦЕ, ЕДЗЕМ!

Гэта крыптанім акцыі «Грамады» і ўсіх беластоцкіх рэдакцый. У сувязі з 50-годдзем Кастрычніцкай рэвалюцыі «Грамада» адкрывае цыкл экскурсій «Шляхам Леніна ў Польшчы». Ужо ў лютым паедзе гэтым шляхам 200 асоб з вёскі.

### 10 ГОД ТРЗЗ

Пачалося багатае адзначэнне дзесяцігоддзя дзейнасці ТРЗЗ на Беласточчыне. Найлепшым дзеячам уручана адзнакі заслужанага дзеяча ТРЗЗ.




NIEDZIELA 22.I.

10.15 Dla młodych widzów: Kino Przygoda „Dzwonią, otwórzcie drzwi" — film radz.; 11.30 PKF; 11.40 Wiadomości dziennika; 12.00 Sprawozdanie z II konkursu skoków narciarskich o Puchar Beskidów (Szczyrk); 14.00 „Przemiany" — Mag. Red. Wiejskiej; 14.25 Dla młodych widzów: J. Wilkowski „Ula i świat"; 14.45 Teatr Młodego Widza: J. Domagalik — „Banda Rudego" cz. IV pt. „Brygidka i chłopcy"; 15.15 „Jan z Bogumina" — rep. film. („Ludzie i zdarzenia"); 15.30 „Nowy nabytek" — film tv pol. („Wojna domowa"); 16.05 „Portrety"; 17.10 „Listy śpiewające" — program rozrywkowy pt. „Czy musimy być na Ty"; 18.00 „Wielka gra"; 18.55 „Słownik wyrazów obcych"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 „Za kulisami operetki" — program muzyczny; 20.30 „Zerwany most" — film fab. pol.; 21.50 Niedziela Sportowa.

PONIEDZIAŁEK, 23.I.

16.55 Wiadomości dziennika; 17.00 Dla dzieci: „Zaczarowany ołówek" — film; 17.10 Dla młodych widzów: „Magiczna Pałeczka"; 17.30 „Klakson" — mag. motoryzacyjny; 17.45 „Służba rolna"; 18.15 Kino Krótkich Filmów; 18.45 „Eureka"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 „Miara pokolenia" cz. III; 20.20 Teatr TV: „Tajemnica starego domu" Panczo Pancew; 21.50 „Na półkach księgarskich"; 22.00 „Indyjskie rozstaje" — rep. film.; 22.15 Dziennik TV.

WTOREK, 24.I

10.00 „Zakazane piosenki" — film fab. pol.; 11.55 Dla szkół: (kl. V — VI) „Historia błękitnej chusty" („O miejsce wśród ludzi"); 14.00 Skoki narciarskie o Puchar Tatr (Zakopane); 16.25 „Przysposobienie rolnicze"; 16.55 Wiadomości dziennika; 17.00 Dla młodych widzów: „Zrób to sam"; 17.15 Dla młodych widzów: „Recytatorzy przed konkursem"; 17.45 Informator handlowy; 17.55 „Filmowcy amatorzy przy kamerze"; 18.20 „Giełda piosenki" — program VI; 18.50 „Bryza"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 TV Kurier Warszawski; 20.15 „Zakazane piosenki" — film fab. pol.; 22.10 Dziennik TV.

ŚRODA, 25.I.

9.55 Dla szkół: (kl. VII) Wychowanie obywatelskie — „Urządzenia komunalne"; 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Fizyka — „Silnik rakietowy"; 11.30 „Alfred Hitchcock przedstawia"; — film; 16.25 „Przypominamy, radzimy"; 16.35 PKF; 16.45 „Zimowe połowy" — film fiński; 16.55 Wiadomości dziennika; 17.00 Teatr Młodego Widza: J. E. Kucharski „Monter"; 17.35 „Zamki węgierskie" — film węg.; 17.55 „Nie tylko dla pań"; 18.20 „Jazz w Filharmonii"; 18.45 „Inwestycje"; 19.00 „Podróż na księżyc" — film; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 „Alfred Hitchcock przedstawia" — film; 20.50 „Światowid"; 21.20 „Zimowa fantazja" — balet na lodzie — film; 22.10 Dziennik TV; 22.25 Magazyn Medyczny.

CZWARTEK, 26.I.

10.55 Dla szkół: (kl. VIII) Język polski — „Spotkanie z Bohdanem Czeszką" („Spotkania"); 11.55 Dla szkół: (kl. V) Historia — „Zanim powstało Państwo Polskie"; 16.15 Kurs Rolniczy; 16.45 „Życie pustyni" — rep. filmowy z Mongolii; 16.55 Wiadomości dziennika; 17.00 Dla dzieci: Kino Ptyś; 17.20 „Medale i detale"; 17.40 „Nigeryjski kocioł" — rep. film.; 17.55 „Spotkanie z cieniem" — program muzyczny; 18.40 „Pieśni Pendżab" — film hinduski; 19.00 „Kiedy trzeba podjąć decyzję"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 TV Kurier Mazowiecki; 20.20 Teatr Sensacji: „Partia domina" — widowisko sensacyjno-szpiegowskie A. Zbycha („Stawka większa niż życie") odc. IV; 21.25 Wszechnica TV. „Energia wód"; 21.50 Dziennik TV.

PIĄTEK, 27.I.

12.00 Dla szkół: (kl. IV) „Na Lubelszczyźnie"; 12.45 Dla szkół: (kl. VIII) Zajęcia techniczne — „Elektryczne mechanizmy domowe"; 16.55 Wiadomości dziennika; 17.00 Dla dzieci: „Miś z okienka"; 17.15 Dla młodych widzów: „Cienie starego zamku" — film.; 17.45 Wszechnica TV: „Za kierownicą"; 18.20 „Wielokropek"; 18.40 „Czwarta zmiana"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 Koncert symfoniczny (30-lecie Państw. Symf. Orkiestry Związku Radzieckiego. Dyryguje E. Świetłanow (Moskwa); 21.15 „10 minut recenzji"; 21.25 „Ludzie z marginesu"; 22.00 „Miejski romans" — nowela filmowa radz.; 22.25 Dziennik TV.

SOBOTA, 28.I.

10.55 Dla szkół: (kl. VII) Biologia — „Mięczaki"; 11.55 Dla szkół: (kl. VI) Geografia — „Wyżyna Kielecko - Sandomierska"; 12.25 „Kobieta z przeciwka" — film fab. ang.; 16.15 Program tygodnia; 16.35 Dla nauczycieli: „Co ważniejsze" („Motywy a czyn"); 16.55 Wiadomości dziennika; 17.00 Dla młodych widzów: „Jak cię widzą tak cię piszą" — telekonkurs; 17.45 „Świat, który nie może zginąć" — film.; 18.10 „Po szóstej" — TV Klub Młodzieżowy; 18.50 „Warszawa, ja i Ty"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Monitor; 20.00 „Państwo Herbin jadą na urlop" — film („Błękitny ekspress"); 20.25 Dziennik TV; 20.45 Wiadomości sportowe; 21.00 Festiwal Piosenki w San Remo; 22.00 „Kobieta z przeciwka" — film fab. ang.

# ДУБІНЫ

(Працяг са стар. 1)



Дубінская школа сельскагаспадарчай падрыхтоўкі цешыцца вялікай папулярнасцю сярод мясцовай моладзі. Зараз вучыцца ў ёй 56 асоб. На здымку: вучні дубінскай школы сельскагаспадарчай падрыхтоўкі ў час заняткаў.



Старшыня дубінскага гуртка вясковых гаспадынь Ніна Янчук.

Фота: аўтар

Калі ў Дубінах узнік план пабудовы новага памяшкання для клуба-кавярні, жанчыны з КГВ абавязаліся адпрацаваць па некалькі дзён пры гэтай пабудове грамадскім чынам.

Калі ў Дубінах закончылі пабудову святліцы, у якой знайшло сваё месца і мясцовае кіно «Чын», трэба было зрабіць ля гэтага будынка гародчык з кветкамі.

— Ці няма ў нас моладзі, — гаварылі некаторыя жанчыны з КГВ, — каб усё мы, старэйшыя рабілі.

— Ёсць моладзь, — агітавала старшыня КГВ Ніна Янчук, — але вось мы, старэйшыя пакажам, што ўмеем зрабіць лепш ад моладзі.

І жанчыны паказалі.

Паміж моладдзю і гуртком вясковых гаспадынь дайшло аднак да непаладак. Было гэта тады, калі надобра пачаў працаваць арганізаваны жанчынамі мастацкі гуртож. Дзейнічаў ён некалькі гадоў, выступаў у Дубінах і ў суседніх вёсках, здабываў узнагароды на конкурсах. Жанчыны спявалі, танцавалі, часта збіраліся ў дубінскай святліцы на рэпетыцыі. Моладзь пачала бурчаць:

— Да святліцы нельга зайсці. Калі не зойдзеш, там заўсёды бабы скачуць.

Жанчыны разззлаваліся надобра, ды і распусцілі свой гуртож.

— Няхай цяпер моладзь пакажа, што ўмее, — заявілі.

Моладзь нічога не паказала. Ужо другі год збіраецца арганізаваць аматарскі драмгуртож, ды нічога не выходзіць. Павесіць кіраўнік святліцы, Алёша Грыгарук, на дзвярах святліцы аб'яву, што ў той і ў той дзень адбудзецца рэпетыцыя, ды з артыстаў прыдзе палова, або і таго менш.

— Што я ім зраблю, калі яны не хочуць прыходзіць? — гаворыць кіраўнік святліцы.

Не тое, што калісь Ніна Янчук. Тая, бывала, калі жанчыны не пасыходзяцца, пойдзе ад хаты да хаты, ды за каўнер прыцягне да святліцы. Мо таму, што Ніна Янчук працуе грамадска, а кіраўнік святліцы за грошы?

У кожным выпадку ў Дубінах адбываецца цікавае спаборніцтва ў культурнай дзейнасці паміж жанчынамі з КГВ, а мясцовай моладдзю. Хто дагэтуль, вядуць у гэтым спаборніцтве жанчыны.

**Ул. Паўлючук**

# ЦІ ЧЫСЦІНЯ ЗА ПАРОГАМ?

(Працяг са стар. 1)

даных няма. Зроблена шмат, але аказваецца гэта работа кропляй у моры патрэб і гэта кропля не мае істотнага ўплыву, **яшчэ** не мае істотнага ўплыву на агульнае пачуццё сакольскага люду, калі ў такім мястэчку Крынкі няма лазні — а была яна там. Лазню разбамбіла вайна і ніхто не пераняўся гэтым па сённяшні дзень.

Аб стварэнні камітэтаў і руху чысціні думалі ў Гайнаўцы, думаў старшыня Хілецкі. У Бельску хвілю падумалі і забыліся аб тым, аб чым думалі.

Усюды мужчыны.

У Сакольскім павеце знайшліся мужчыны, якія пачырванелі, у іншых паветах — не, не пачырванелі. І так чысціня.

Так званая інспекцыя санэпіду, якой баяцца, бы агню, розныя гандляркі смятанаю, маслам і мясам, тлумачыць на ўвесь голас, што:

трэба чысціні ў хатах, трэба пабрукаваных панадворкаў і вуліц, абжвіраваных калодзежаў і глыбінных студняў, спецыяльных гнаёвак пры хлявах і нужніках. Прападуць мухі, кветкі ў гародчыках ад вуліц не толькі прыгожыя, але і засланяюць яны ад пылу, дрэвы таксама... Санэпід тлумачыць, тлумачыць, як да сцяны! Урэшце тлумачыць, што гэта дасць здароўе, а без здароўя не выканаем намераных гаспадарчых планаў. Так, так!

Як да сцяны...

**Ал. Анташэвіч**

# БЕЛАРУСКІЯ ПАДРУЧНІКІ

Частым пытаннем сярод настаўнікаў і кіраўнікоў школ, дзе навучаецца бел. мова, з'яўляецца справа друку падручнікаў для гэтага ж прадмета. Безумоўна, пытанні такія неабходна кіраваць у адрас асветных улад уключна з міністэрствам і прафсаюзнай настаўніцкай арганізацыяй. У сувязі з тым, што прадстаўнікі нашай рэдакцыі таксама вельмі часта сустракаюцца з такога роду пытаннямі, а нават атрымоўваем спецыяльныя пісьмы ад чытачоў, хочам падаць пэўныя інфармацыі адносна друку паасобных падручнікаў. Адначасова засцерагаем, што наша інфармацыя неафіцыяльная, але паходзіць ад асоб, добра паінфармаваных у гэтай справе.

I. **«Дружба і праца»** — хрэстаматыя **для VIII класа** А. Баршчэўскага і В. Шведа (якую часткова «Ніва» перадрукоўвае), мае выйсці з друку ў II-гім квартале гэтага года.

II. **«Ядвае нас дружба»** — хрэстаматыя для **сёмага класа.** Яна ўжо зацверджана Міністэрствам асветы да друку. Намаганні ідуць у тым напрамку, каб надрукаваць падручнік да верасня гэтага года.

III. Справы чытанак **для VI класа,** практычна аналізуючы, не вырашана. Фармальна справа выглядае так, што складзены аўтарамі падручнік яшчэ не зацверджаны спецыяльнай камісіяй у міністэрстве. Калі пішам аб гэтым, згодна з указаннямі камісіі, аўтары падручніка наносяць папраўкі.

IV. **«Беларускае слова»** Л. і М. Гайдук для **V класа** мае выйсці з друку ў І-шым квартале гэтага года.

Паводле вышэй успамянутых інфармацый, Міністэрства асветы носіцца з намерам даручыць ПЗВС (Дзяржаўнае прадпрыемства Школьных выдавецтваў) апрацоўку падручнікаў для II, III і IV класаў зрэфармаванай школы. Наколькі нам вядома, гэта асноўныя прычыны таго, што не ўзнаўляецца друк падручнікаў для гэтых класаў, хоць іх ужо няма ў кніжных складах і кнігарнях і адчуваецца недахоп у некаторых школах.

Апрача ўсяго сказанага па прапанове Міністэрства асветы, ПЗВС мае выдаць у форме ўкладкі да падручніка **«Гісторыю беларусаў у Польшчы».** З прыемнасцю павіталі б гэтую пазіцыю настаўнікі і вучні, ды і не толькі... (ак)

НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ СПРАВЫ

# Лэмкі на варштаце сацыялагічных даследаў

Лэмкамі называюць этнічную групу, якая з'яўляецца найбольш на захад высунутым адгалінеңнем украінскай нацыі. Да вайны лэмкі пражывалі камплетна ў Бяскідах, а асабліва ў паветах Новы Сонч, Ясла, Кросна, Санок, Гарліцы. Колькасна акрэслівалі гэтую групу на больш як 100 тысяч чалавек. Пасля вайны каля 2/3 лэмкаў выехала ў Савецкі Саюз, а тыя, што засталіся ў Польшчы, былі ў 1947 годзе, у сувязі з дзейнасцю бандаў УПА, перасялены на Заходнія землі. У апошнія гады невялікая іх частка вярнулася на Лэмкаўшчыну ў Бяскіды. Лік лэмкаў, пражываючых зараз у Польшчы, ацэньваецца на 30—35 тыс. пры чым 85—90% гэтай групы пражывае на Заходніх землях.

У 3 нумары квартальніка «Kultura i społeczeństwo» з 1966 года паявіўся артыкул А. Квілецкага пад загалоўкам: «Problemy socjologiczne Łemków na Ziemiach Zachodnich». Артыкул мае характар парадкавання тэрміналогіі і праблем да будучых даследаў над лэмкамі. Коратка кажучы, аўтар ставіць пытанне: што і чаму варта даследваць сярод лэмкаў і якімі сацыялагічнымі катэгорыямі трэба пры тым карыстацца. Пры аказіі аўтар разглядае змест такіх паняццяў, як асіміляцыя, інтэграцыя, адаптацыя, і магчымасці іх прымянення пры аналізе сітуацыі нацыянальных меншасцей. Большасць тэарэтычных сцвярджэнняў аўтара можа быць прыдатна і для тых, хто хоча вывучаць сітуацыю беларусаў у Польшчы. Паясняючы прычыны, якія вырашылі аб арганізаванні даследаў над лэмкамі, аўтар паклікаецца на недахоп у пасляваенным польскім друку якіх-небудзь аналізаў змен у этнічных суадносінах, а таксама на вялікую тэарэтычную, навуковую вартасць даследаў над нацыянальна-меншасцевымі групамі.

З канкрэтных сцвярджэнняў аўтара ў адносінах да лэмкаў варта звярнуць увагу на факт, што культурнае жыццё сярод іх праяўляецца толькі на роднай ім Лэмкаўшчыне, і абсалютна не ўдаецца пабудзіць яго на Заходніх землях. Адсюль аўтар робіць вывад аб вялікім значэнні роднай зямлі, роднага краявіду ў жыцці этнічнай групы. (п)

БЕЛАРУСІЯНА

# „Мёртвым не баліць" на польскай мове

Miesięcznik Literacki ў першым сёлеташнім нумары змяшчае ўрывак аповесці беларускага пісьменніка Васіля Быкава «Мёртвым не баліць», якую ў мінулым годзе друкаваў маскоўскі літаратурны часопіс «Новый мир». У рэдакцыйнай даведцы «Месячнік» піша: «Быкава нязменна цікавіць ваенная тэма, а дакладней — падзеі II сусветнай вайны. Аднак гэта зусім не мемуарная проза. Быкаў адшукоўвае ў тых трагічных гадах тое ўсё, што засталося актуальным для сённяшняга чытача. Канфлікты яго герояў, іх выпрабаванні і адчуванні, хоць адносяцца да канкрэтнага часу, надалей баляць і хвалююць. Быкаў, не ўпадаючы ні на хвіліну ў дыдактыку, паказвае нам вайну ў ролі строгага экзаменатара, асуджваючага найвастрэй, мабыць, менавіта бяздушнасць і люцтасць».

Пераклаў Быкава З. Фэдэцкі. (рл)

# МАЕ СУСТРЭЧЫ З БРАНІСЛАВАМ ТАРАШКЕВІЧАМ

Асабіста я меў шчасце першы раз убачыць Б. Тарашкевіча ў канцы жніўня 1922 г., калі з глухой беларускай вёскі Цяцеркі, што на Браслаўшчыне, прыехаў вучыцца ў Віленскую беларускую гімназію. Ужо з першых хвілін майго знаходжання на калідорах гэтай гімназіі моцнае і незабыўнае ўражанне зрабіла на мне пануючая там свойская, прыязная атмасфера. Кідаліся ў вочы беспасрэдныя бацькоўскія адносіны настаўнікаў і дырэктара да сваіх вучняў.

Б. Тарашкевіч пасля выбару ў Сейм перадаў пасаду дырэктара інж. Нэкандa-Трэпку. Пакідаючы пасаду дырэктара, Б. Тарашкевіч не зрывае кантактаў з беларускай гімназіяй і з моладдзю. Ён у вольныя дні ад пасольскіх заняткаў выкладае ў гімназіі, у старэйшых класах лацінскую і беларускую мовы і літаратуру. Амаль заўсёды, аж да арышту, узначальвае экзаменацыйную камісію на атэстат сталасці. Наогул стараецца ўсімі спосабамі ўтрымліваць цесныя кантакты з гімназіяй, моладзь якой у гады дзейнасці Грамады адыграла важную ролю ў справе папулярызацыі гэтай арганізацыі, масава распаўсюджваючы грамадаўскую літаратуру па вёсках. А моладзь старэйшых класаў належала да Грамады, хаваючы партыйныя білеты ад школьных і адміністрацыйных улад.

Сустракаў я Б. Тарашкевіча і ў прыватных умовах. У гутарцы ён быў вясёлы, дасціпны, любіў і ўмеў апавядаць. Па-мастацку ўмеў аддаваць характэрны тып беларускага селяніна, яго мову, міміку, рухі, спосаб быцця і г.д. У сур'ёзных гутарках імпанаваў шырокай эрудыцыяй. У той час быў ён аўтарытэтам у галіне беларускай культуры, гісторыі, мовы і літаратуры. Дасканала ведаў класічныя мовы і антычную культуру. Умеў і жанчынам заімпанаваць. І тады нічога дзіўнага ў тым, што беларуская красуня Вера Андрэеўна Снітко з Радашковіч закахалася ў Бронку і выйшла за яго замуж. Сустракаўся я з Б. Тарашкевічам двойчы ў **1924 і 1925** гг. у час летніх канікулаў у кс. Янкі Семашкевіча (які карыстаўся літаратурным псеўданімам Янка Быліна) ў Лаварышках пад Вільняй. Б. Тарашкевіч, адпачываючы ў бацькоў, наведваў кс. **Я. Семашкевіча.**

Аднойчы ў нядзелю, калі касцельны звон паклікаў прыхажан на багаслужэнне, кс. Семашкевіч жартуючы звярнуўся да Б. Тарашкевіча і мяне з такімі словамі: «Ты, Бронюк, пакуль мы памолімся, ідзі паляжы ля рэчкі, а ты, Мар'яне, марш на хор, паможаш Янку Пазняку пяяць беларускія песні».

З гэтымі песнямі ў касцеле ўсяляк бывала. Арганіст Янка Пазняк быў вялікім аматарам беларускіх народных песень. І гэтую ягоную любоў да роднай песні выкарыстаў Б. Тарашкевіч. Ён намовіў Пазняка, каб той у часе багаслужэння праіграваў мелодыі беларускіх народных песень. Той ахвотна згадзіўся, але зазадаў гарантыі, што Б. Тарашкевіч заступіцца за яго, калі ксёндз абругае за такую самаволю. І ў адну нядзелю Пазняк у час багаслужэння праіграў некалькі беларускіх народных мелодый, напр., «Зялёны дубочак на яр пахіліўся», «У нядзельку раненька», «Ой, не кукуй зязюленька» і інш. Багамолы ад часу да часу адварочваліся і пазіралі на хоры, а ксёндз пры алтары правіў сваё, не звярочваючы ўвагі. Па заканчэнні багаслужэння я хутка пабег на рэчку да Б. Тарашкевіча і ўсё яму расказаў. Ён так смяўся, ажно за жывот трымаўся і сказаў: «Ну, пабачым, што скажа Быліна». Са-

**НЕ ТОЛЬКІ НА КАРНАВАЛ**



# Хоппель-поппель

Распачаўся карнавал — пара вяселля, гульняў і танцаў. Усім бывальцам клубаў «Рух» і «Маладога гаспадара» прапануем новы танец, які можа ўжо некаторыя з вас і танцуюць. Называецца ён «хоппель-поппель». Смешна праўда? Але іранізаваць не раім — іменна хоппель атрымаў прэмію на міжнародным конкурсе. Радзімай «хоппеля-поппеля» з'яўляецца Фінляндыя, а стварылі яго кампазітар Йорген Петэрсен і харэограф Вейка Ніемеля. А вось прыступаем да навукі.

Зрабіце на лік «раз» шаг з левай нагі наперад і падыміце на лік «два» перад сабою правую нагу. На лік «тры» — пастаўце правую нагу каля левай, а на «чатыры» прыпадыміце ззаду левую нагу. Згодзіцеся, што ўсё вельмі простае.

А цяпер паступім так: зрабіце пачаткова чатыры простыя крокі наперад, пачынаючы з левай нагі і ўслед за гэтым рух, які толькі што навучыліся. А потым зноў ад пачатку. Калі хто-небудзь з вас памыліўся, дык вінавацьце сваю няўважнасць: пасля чатырох крокаў наперад трэба зрабіць яшчэ адзін крок і толькі пасля таго падняць правую нагу над падлогаю. Каб гэтыя рухі пераўтварыць у танец «хоппель-поппель», неабходна гэта рабіць хутчэй і чатыры крокі выканаць у характары лёгкай бестурботнай «прабежкі», а другую групу рухаў спалучыць з падскокамі: гэта абазначае, што падняўшы правую нагу, трэба лёгенька падскочыць на левай і адпаведна наадварот.

Ну а як стаяць у пары? Партнёрка бярэ партнёра пад руку, а можна ўзяцца проста і за рукі. Пры тым напамінаем, што варыянтаў можна выкарыстоўваць многа, не змяняючы асноўнага кроку. Напр.: стаўшы ззаду партнёркі, узяць яе за талію, або апусціўшы рукі, паварочвацца ў розныя бакі і т.д.

Думаем, што «хоппель-поппель» сапраўды вам спадабаецца і дасць вам прыемнасць не толькі ў карнавале.

**А. К.**

# Суперхуткі поезд



На лініі Масква — Ленінград у хуткім часе будзе пабудавана суперхуткая электрычная чыгунка. Хуткасць поезда будзе выносіць 250 кіламетраў у гадзіну. Вагоны будуць мець аэрадынамічную форму.

Прадбачваецца, што вагоны будуць мець выгляд салона, выкананага з каляровай пластмасы і іншых сінтэтычных матэрыялаў. Будуць тут мяккія крэслы, раздзявальня, буфет. Унутры будзе аўтаматычна рэгуляваная пастаянная тэмпература і вільготнасць паветра. У час язды пасажыры будуць маглі гаварыць па тэлефоне з кожным абанентам у Маскве ці Ленінградзе.

Поездам будуць кіраваць электранічныя машыны, таму што чалавек не змог бы кіраваць такім суперхуткім поездам.

У сувязі з тым, што поезд за адну секунду будзе праязджаць 50 метраў, неабходны адпаведныя тармазныя прылады. Суперхуткі экспрэс будзе мець вельмі спраўную тармазную сістэму, якая будзе складацца з электрычнага, пнеўматычнага, а нават магнетычна-рэечнага тармажэння.

Новы суперхуткі электрычны поезд будзе складацца з 10 вагонаў. Вагоны будуць выкананы з алюмінію. Каб запэўніць плаўнасць язды і вялікую хуткасць, 80% усіх восяў будуць прыводзіцца ў рух маторам.

На рысунку: Праект электрычнага суперхуткага экспрэса.

(ака)

# Праўда пра ільва

Вялізную і прыгожую грыву маюць толькі тыя ільвы, якія жывуць у няволі. Леў дзікі, у Афрыцы, не мае такой грывы, здзіраецца яна яму ў трапічным лесе да таго, што леў зусім непадобны да стройнага «цара звяроў». Падобны ён хутчэй за ўсё да нейкага галадранца.

Леў — баязлівец. Ад кожнай небяспекі леў стараецца ўцячы, і толькі, калі адчуе, што не мае выхаду, тады кідаецца ў грызню. Барацьбу вядзе вельмі адчайна — зрэшты, як і ўсе іншыя баязлівыя звяры.

Леў лёгка злуецца, робіцца раз'юшаным. Гэта характэрныя рысы «характару» ўсіх баязлівых звяроў. Прыступ фурыі ў льва: — лупіць сябе хвастом па баках і вышчэрвае іклы. Такім спосабам леў хоча запалохаць свайго праціўніка: ану ж праціўнік уцячэ і не трэба будзе ваяваць.

Часамі можна пачуць расказы пра ільвоў-людаедаў, якія прытойваюцца каля афрыканскіх вёсак, кідаюцца на адзінокіх людзей. Трэба адразу сказаць, што нармальны леў ніколі не робіць чагосьці такога, для яго гэта завялікая рызыка. Ільвы-людаеды — гэта найчасцей хворыя штукі альбо вельмі старыя, якія ўжо не маюць сіл паляваць. Перад абліччам галоднай смерці перамагаюць яны страх перад чалавекам.



Леў — вялікі гультай. Хаця мы, людзі, адносімся з найбольшай паблажкай да гультайства, аднак гультайства ільва нас здзіўляе. Леў можа праляжаць тры дні ў сваёй пячоры і не варухнуцца нават. Толькі вялікі голад прымушае ільва варухнуць лапаю, а можа і галавою.

Леў — абжора. З абжорства можна яго разграшыць, бо леў не мае так, як чалавек, халадзільніка або склеп на мяса. Здабыўшы паўтонавы кавалак мяса разам з вантробаю, кіндзюком ды іншымі прысмакамі, леў стараецца ўсё зжэрці за адзін раз. Праўда, не заўсёды яму ўдаецца, але есць ён сапраўды «да адказу». Мяса, якое ўжо не ў сілах зжэрці, пакідае шакалам, гіенам, сіпам і іншым зладзюжкам, якія зусім не прычыніліся для здабычы гэтага мяса.

Адзінае, за што можна пахваліць ільва без агаворак — гэта яго вернасць да ільвіцы. Не пакідае яе і наогул рэдка далучаецца або адлучаецца да другіх. Зрэшты, хто яго ведае: мо' яму проста не хочацца лазіць.

(а-ся)




...Праз некалькі дзён пасля прыбыцця Вольскага ў Панятоў у невялікім доміку на ўскраіне горада размясцілася група археолагаў з шасці чалавек. Ніхто, натуральна, не здагадваецца, што археолагі — гэта супрацоўнікі польскай дзяржбяспекі, прысланыя шэфам для аказання дапамогі Вольскаму. Нечакана сам Вольскі, яго частыя наведванні доміка археолагаў пачынаюць выклікаць падазрэнне і ў яго начальніка — капітана Свабоды і ў паручыка Вагі, афіцэра ўнутранай службы палка, у якім быццам бы праходзіць перападрыхтоўку «паручык» Вольскі.

Спартыўная зала была перапоўнена гледачамі. Неўзабаве павінен быў пачацца матч баксёраў на першынство II лігі. «Г-20» увесь час пазіраў на гадзіннік. Выкарыстаўшы штурханіну ля ўваходу, ён без цяжкасцей аддзяліўся ад групы ваенных балельшчыкаў з Панятова. Цяпер ён шукаў зручны момант, каб непрыкметна выйсці з залы і накіравацца на ўмоўленае спатканне ў рэстаран «Грыф».

Неўзабаве на рынгу пачаўся першы раунд.

«Г-20» крадком агляднуўся і, пераканаўшыся, што ніхто не звяртае на яго ўвагі, накіраваўся да выхаду.

Ён хуткімі крокамі перасёк невялікую плошчу і павярнуў у бакавую вуліцу. Непадалёку быў прыпынак трамвая. Падыходзячы да прыпынку, «Г-20» інстынктыўна адчуў, што за ім хтосьці сочыць. «Г-20» азірнуўся. Нязграбны мужчына ў карычневым плашчы стаяў ля магазіннай вітрыны на процілеглым баку вуліцы. «Г-20» уважліва сачыў за яго паводзінамі. Неўзабаве да мужчыны падышла нейкая жанчына. Мінуту яны гутарылі, потым мужчына падаў ёй руку і яны пайшлі.

— Здалося мне, — з аблягчэннем падумаў «Г-20».

Падышоў трамвай. «Г-20» сеў у прычапны вагон. За ім увайшло некалькі чалавек.

Праз некаторы час яму зноў здалося, што за ім сочаць. Ён павярнуў галаву і азірнуўся. На пляцоўцы вагона стаяла некалькі мужчын. Адзін з іх паглыбіўся ў чытанне газеты. «Г-20» не мог разгледзець яго твару. Мужчына быў апрануты ў скураны плашч і фетравы капялюш.

— Дзесьці я яго бачыў, — з непакоем падумаў «Г-20» і хутка перайшоў на пярэднюю пляцоўку.

Мужчына ў скураным паліто спакойна працягваў чытаць газету.

Калі трамвай набраў скорасць, «Г-20» маланкава схапіўся левай рукой за поручні і, адштурхнуўшыся ад прыступкі, нечакана саскочыў на маставую. Непадалёку стаяла таксі. Ён падбег да яго.

— Свабодна? — спытаў ён хутка, адчыняючы дзверцы.

Шафёр кіўнуў галавою.

— Алея Войска Польскага, — кінуў ён шафёру і ўскочыў у машыну, — толькі хутка, а то я не паспею!

Вадзіцель пераключыў лічыльнік на стартэр і прыбавіў газу. Машына рванулася з месца. «Г-20» павярнуўся і праз задняе шкло паглядзеў на вуліцу. Тое, што ён убачыў, пацвердзіла яго падазрэнні. Чалавек у скураным плашчы выйшаў з трамвая і азірнуўся, нібы шукаючы свабоднае таксі. «Няўжо ён за мною сачыў? — падумаў шпіён. — А можа здалося», — супакойваў ён сябе.

Крыху пазней «Г-20» уваходзіў у рэстаран «Грыф». У кутку за свабодным столікам сядзеў Стэйнеке. «Г-20» аддаў плашч у гардэроб і падышоў да агента.

— У мяне толькі пятнаццаць мінут, — сказаў ён ціхім голасам, падазрона азіраючыся па баках.

Стэйнеке паглядзеў на яго здзіўлена.

— Што-небудзь здарылася?

— Па-мойму за мной сочаць, — адказаў усхваляваны «Г-20».

Стэйнеке сарваўся з месца.

— Змыемся? — устрывожана спытаў ён.

— Не, садзіся, я яго падмануў.

Яны ўселіся побач на канапе. Праз мінуту падышоў кельнер. Заказалі гарэлку і закускі.

— Калі за мной сочаць, наш першапачатковы план праваліўся, — сказаў «Г-20», калі кельнер пайшоў. — Не ведаю, што цяпер рабіць.

— Можа быць гэта памылковая трывога? — сказаў асцярожна Стэйнеке.

«Г-20» панура паглядзеў на яго.

— Можа быць памылковая, а можа і не, але ўсё роўна трэба хутчэй узяцца за работу.

Агент пацісвуў плячыма:

— Я гатовы, чакаю толькі тых даных.

— Пакуль можаце папрацаваць самастойна, — прамармытаў «Г-20». — Не зусім разумею, для якой мэты патрэбны «старому» даныя аб дыслакацыі ракетных батарэй. Ракеты ж праз пэўныя прамежкі часу мяняюць размяшчэнне. Пра гэта нам гаварылі на лекцыях. Да чаго тады наша работа?

Стэйнеке крадком зірнуў на яго.

— Гэтага і я не ведаю, — адказаў ён. — Але мне здаецца, што «старога» цікавіць не канкрэтная дыслакацыя кожнай батарэі асобна, а сістэма іх размяшчэння. А сістэму можна ўстанавіць толькі на аснове дыслакацыі асобных батарэй. Наўрад ці мы дастанем план усёй сістэмы. Я ў гэта не веру, — скептычна закончыў Стэйнеке.

«Г-20» задумаўся.

— Такіх даных я не змагу здабыць, — прамармытаў ён, крыху пачакаўшы. — Хіба толькі ў тым выпадку, калі мне ўдасца дабрацца да агульных планаў дыслакацыі. Але гэта амаль немагчыма. Яны здорава ахоўваюцца.

Яны гутарылі яшчэ некалькі мінут.

— Ледзь не забыў, — сказаў Стэйнеке, выцягваючы каробку з папяросамі, — ёсць нейкае паведамленне табе. Атрымаў я яго ўчора вечарам.

— Шыфроўка?

— Так, на твой ключ.

«Г-20» задумаўся на мінуту.

— Мы не можам больш сустракацца, — сказаў ён, — я павінен зараз жа прачытаць. Можа быць, якія дадатковыя ўказанні? Ключ пры мне.

— Тут небяспечна, — перасцярог Стэйнеке, азірнуўшыся вакол.

# ТРЫБУНА чытачоў




Дарагое Сэрцайка!

Маю 17 год. Жыву на кватэры. Не так даўно пазнаёмілася я з хлопцам, які мае каля 30-ці год. Хлапец гэты гаворыць, што ажэніцца са мною. І я і бацькі мае задаволены з гэтага, бо ім таксама Яцэк падабаецца. Толькі ў мяне яшчэ адна перашкода. Яцэк вымушаны чакаць, пакуль я скончу 18 год. Праўду кажучы, дык не так то і доўга, бо за некалькі месяцаў. Не так даўно пачаў да мяне прыходзіць суседаў сын — Сенька. Сенька мае толькі 18 год і яшчэ вучыцца. А Яцэк ужо працуе. Сенька мне таксама падабаецца.

Не ведаю, што рабіць, Сэрцайка, ці чакаць на Сеньку, пакуль скончыць школу і пойдзе працаваць, ці выходзіць за Яцка.

А калі ты параіш, што ані за аднаго, ані за другога, дык з кім сустракацца, а мо змяніць кватэру?

Таіса з Беластоцкага павета

Дарагая Таіска!

Такая вось і мая рада: ні за аднаго, ні за другога не выходзіць пакуль замуж. Яшчэ ты маладая, а жыццё — перад табою, таму яшчэ паспееш выйсці замуж. А пакуль маладая, дык пагуляй. Аднак калі сапраўды Яцэк чакае на цябе, пакуль скончыш 18 год, дык ты павінна яму сказаць, што не маеш яшчэ намеру выходзіць замуж. Яму ж ужо каля 30-ці год і калі хоча жаніцца, не трэба табе яго зводзіць. На маю думку, ты павінна і Яцка і Сеньку лічыць як сяброў, а не адразу ўжо нарачонымі, як пішаш. Нічога не маю супраць, калі будзеш сустракацца з Сенькам, ён жа ж у тваіх гадах, вучыцца. Напэўна маеце больш цікавых спраў да дыскусіі, чым аб каханні. У вашых гадах напэўна прыямней і карысней падыскутаваць аб добрай цікавай кніжцы ці фільме, чым планаваць аб замужастве і жаніцьбе. Павер мне.

**Сэрцайка**

## БУДЗЕ СВЯТЛО

У Ляшуках і Міхноўцы добра папрацавалі электраманцёры падчас электрыфікацыі сялянскіх хат і будынкаў. За некалькі дзён засвецяцца тут электрычныя лямпачкі. Электрычны ток прынясе жыхарам гэтага раёна вялікае задавальненне.

**Адольф Салавей**
ас. Людвінава

## З ДАПАМОГАЙ СПЕКУЛЯНТАМ

Ёсць дзве пастановы нашых улад, якія прыносяць карысць спекулянтам.

Гэта датычыць пастановы павятовай рады нарадовай у Саколцы, якая не дазваляе прадаўшчыкам прадаваць гарэлкі ў дзень выплаты. Інтэнцыі гэтай пастановы вельмі добрыя.

Выдавалася б, што пасля выплаты рабочыя не прап'юць грошай і па-цвярозаму занясуць іх дахаты.

І вось гэты момант выкарысталі спекулянты. Натварылася столькі «патаемак» з водкаю, што рабочыя ўсё роўна п'юць, з той толькі розніцай, што не могуць купляць у краме водкі за 51 зл. паўлітра, але за гэты самы паўлітар плацяць ад 10 да 20 злотых даражэй спекулянтам.

Другая пастанова датычыць гандлю баранамі і цялятамі. Праўда, спекуляцыю мясам праследуе міліцыя. Але што з таго, калі пры продажу скурак у ГС-е або пунктах скупу сырых скур не выдаецца квітоў з прозвішчамі і адрасамі прадаўшчыка, а ўстаўляецца толькі колькасць і якасць скур. Гэта ж вельмі выгадна спекулянтам, якія масава выкупляюць на мяса авечкі і цяляты ў гаспадароў, а пасля гандлююць ім і набіваюць сабе кішэні.

І што цікава: што б ні прадаў гаспадар дзяржаве, упісваецца яго прозвішча і адрас у квіт, а вось пры продажу скур з цялят і авечак — не пішацца. Напэўна ўдзячныя спекулянты за гэта нашым уладам.

**А. С.**
Сакольшчына

## ПЛЯНТАЎСКІ СЕЛЬГАСГУРТОК

Да гэтага часу вялікім недахопам сельскагаспадарчых гурткоў з'яўляецца тое, што яны вельмі павольна разрастаюцца ўшыр, бо вельмі часта большасць гаспадароў вёсак не прыступае да гэтай арганізацыі. А вось у вёсцы Плянта, што каля Нараўкі, амаль усе гаспадары з'яўляюцца членамі сельскагаспадарчага гуртка. Прэзасам працуе там Антон Грыцук.

Гурток гэты выдзяляецца ад іншых тым, што яго машыны даўно ўжо не стаяць пад голым небам, а ў спецыяльнай шопе. Гурткоўцы тут адбылі двухгадовы сельскагаспадарчы курс. Абмянялі яны ўжо насенне зерневых культур і бульбы. У Плянце ў мінулую восень адбылося паказовае сіласаванне пад кіраўніцтвам агранома Лявона Стоцкага. Супольнымі сіламі і дзякуючы выкарыстанню даходаў сельгасгуртка, плянтаўцы пабудавалі злеўню малака.

Прыемна, што ўсё добра ладзіцца ў гэтым гуртку.

**Янка Цялушэцкі**
Новае Ляўкова

## КОНКУРС АБ ДАРОЖНЫХ ПРАВІЛАХ

У снежні мінулага года камэнда Гуфца ЗГП супольна з павятовай камэндай міліцыі і дарожным аддзелам Прэзідыума ПРН у Бельску арганізавалі конкурс пад загалоўкам «Ці ведаеш правілы дарожнага руху».

У конкурсе ўдзельнічалі вучні сярэдніх школ Бельска і 20 гарцэрскіх дружын пачатковых школ павета. Першую калектыўную ўзнагароду атрымаў калектыў педагагічнага ліцэя з Бельска. Анатоль Паўлючук і Зіна Дамброўская — члены гарцэрскай дружыны ў Гацьках — занялі ў павеце найлепшыя месцы.



На здымку: Кіраўнік дарожнага руху МО ў Бельску Аляксандр Кулеша ўручае ўзнагароду Зінаідзе Дамброўскай.

Тэкст і фота П. Зінкевіч
Бельск

## ПЕРАЛОМ

Сяляне вёскі Альхоўка (Гайнаўскі павет) перажылі ў мінулым годзе вялікі пералом у апрацоўцы зямлі. А гэта менавіта таму, што летам закончыліся апошнія працы пры грамадскай камасацыі іхняй зямлі і ад гэтага часу пачалі яны гаспадарыць ўжо на сваіх калёніях.

Цераспалосіца для альхоўскіх сялян да апошняга часу была адной з найбольш балючых спраў. Цяжка прыходзілася тады жыхарам працаваць на вузенькіх палосках. На альхоўскіх палях сельскагаспадарчых машын ніхто і не бачыў. Усе працы выконваліся тут уручную. Сяляне сеялі з традыцыйнай каробкі і жалі сярпамі. Штопраўда, у вёсцы сельгасгурток меў ужо свой уласны сеўнік, ды карыстацца ім магло ўсяго некалькі гаспадароў. Бо для іншых аднавяскоўцаў быў ён шырэйшы ад паласкі. Вельмі цяжка прыходзілася і альхоўскім жанчынам, якія ад світання да цямна гнулі свае спіны на гарбатых і доўгіх загончыках.

Альхоўскія палі і сенажаці не бачылі таксама і мінеральных угнаенняў. Бо як жа іх было можна рассеяць? А калі хтосьці паспрабаваў, дык зрабіў карысць для суседа, бо на свой загончык не было магчымасці рассеяць! У Альхоўцы трымаўся таксама яшчэ і ўсеагульны выпас кароў і коней на пожні, які таксама прыносіў многа клопатаў для сялян. З уборкай збожжа трэба было добра спяшаць, каб не астацца ад суседзяў, бо калі хтосьці крыху прыпазніцца, дык «ляшкі» жыта неаднойчы расцягнуць коні. Не было магчымасці таксама сеяць паплёнаў. Усеагульны выпас пад восень адбываўся і на сенажацях. Праз нейкі час альхоўскія лугі былі стаптаны каровамі і коньмі.

Дык і як жа па такім выпасе на другі год можна было спадзявацца добрай травы?

Але ўсё гэта зараз для альхоўскіх сялян засталося як успамін. Няма ўжо ў Альхоўцы вузенькіх палосак. Замест 36 кавалачкаў сяляне маюць цяпер па 3—4 участкі зямлі. Грамадская камасацыя ўнесла вялікую перамену на лепшае ў жыцці альхоўцаў.

На альхоўскіх палях у мінулым годзе гудзеў ужо трактар. Дзесяць гаспадароў купіла ўжо сабе касілкі. Сеўнікам сельгасгуртка могуць карыстацца ўжо ўсе сяляне. Цяжкую працу земляроба і ў Альхоўцы пачалі заступаць машыны. Адкрылася дарога для механізацыі. Многія сяляне ўжо ўгнойвалі свае палі і сенажаці мінеральнымі ўгнаеннямі. Альхоўскія лугі ў мінулую восень не тапталі каровы і коні.

1966 год надоўга застанецца ў памяці для альхоўскіх сялян, таму што ў гэтым годзе наступіў вялікі пералом у іхнім вясковым жыцці.

**Юрка Скепка**
Альхоўка

## КУРС ЗАКОНЧАНЫ

27 снежня 1966 года на Бельшчыне закончана сельскагаспадарчая адукацыя гаспадароў. Асабліва ўрачысты характар мела заканчэнне адукацыі сялян у самым Бельску. У апошнім дню заняткаў узялі ўдзел члены МРН, радныя і члены сельскагаспадарчай камісіі, якія разам з удзельнікамі заняткаў абмяркоўвалі добрыя бакі і недахопы курсу. Калі разыходзіцца аб выкладчыкаў, дык найлепшым быў аграном Міхась Паўловіч. На падкрэсленне заслугоўвае таксама і кіраўнік курсу селянін Лявон Артысевіч.

П. -З.
Бельск

**У залу няспынна ўваходзілі ўсё новыя наведвальнікі.**

**— Выйду ў прыбіральню, — сказаў «Г-20».**

**— Добра, я пачакаю.**

**Праз пяць мінут «Г-20» вярнуўся. Стэйнеке заўважыў, што ён моцна раззлаваны.**

**— Як гэта атрымалася з Гардэнам? — раптам спытаў «Г-20». — Толькі без выкрутасаў, — грозна папярэдзіў ён.**

**Стэйнеке спалохаўся. Ён не быў падрыхтаваны да такога пытання і ў думках ліхаманкава шукаў выйсця. Ён паскорыў крок, каб выйграць крыху часу. «Г-20» схапіў яго за руку.**

**— Пачакай, не бяжы так, — шапнуў ён. — Ну, як гэта было?**

**— Ён перайшоў са мною граніцу, — адказаў Стэйнеке, стараючыся гаварыць спакойна. — Праз некалькі кіламетраў кожны пайшоў сваёй дарогай. Гэта ўсё, што магу расказаць.**

**— Да якога месца ён дайшоў?**

**— Не ведаю. Ён не гаварыў мне пра свае планы.**

**«Г-20» падазрона паглядзеў на яго.**

**— Не гэта мяне цікавіць, — холадна сказаў ён.**

**— А што ж? — нецярпліва сказаў Стэйнеке.**

**— Чаму ты пра гэта мне не расказаў?**

**— Я лічыў, што гэта не так важна, — адказаў Стэйнеке.**

**— Няважна, ты думаеш? — успыхнуў «Г-20». — А калі ён праваліўся і ўсё выклаў? Цэнтр пытаецца, што адбылося з Гардэнам. Да гэтага часу ад яго не паступіла ніякіх звестак. Напэўна, засыпаўся!**

**— Калі б нават ён праваліўся, ён не мог бы нічога расказаць. У гэтым я ўпаўне перакананы. Ён жа нічога не ведае. Не, гэта немагчыма, — упэўнена заявіў Стэйнеке.**

**«Г-20» палічыў гэта тлумачэнне ўпаўне праўдападобным. Адзінае, што яго здзіўляла, — гэта хваляванне агента.**

**— Магчыма, так і было, — сказаў ён. — Але калі я заўважу, што за мной сочаць, кіну гэту работу.**

**— Гэтага ты не зробіш, — сказаў Стэйнеке з націскам. — Міністэрства абароны чакае. «Стары» гаварыў, што заплоціць пяцьдзесят тысяч, а калі добра пойдзе, то нават усе сто. Акрамя таго...**

**— Што акрамя таго? — перапыніў яго «Г-20».**

**— Нічога, — шматзначнай усмешкай адказаў Стэйнеке.**

**«Г-20» апусціў вочы. Ён ведаў, што калі б ён цяпер адмовіўся супрацоўнічаць, Стэйнеке выдаў бы яго органам дзяржбяспекі. Звычайны шантаж! Гестапаўскія метады! — праклінаў ён у думках усіх і ўсё.**

**Яны перайшлі на другі бок вуліцы.**

**— Калі я атрымаю першыя даныя? — спытаў Стэйнеке.**

**— Падрыхтуй апаратуру да наступнага тыдня і чакай, пачынаючы з нядзелі, — змрочна сказаў «Г-20».**

**Стэйнеке кіўнуў галавою. Яны разышліся не развітаўшыся.**

**Праз пятнаццаць мінут «Г-20» вярнуўся ў спартыўную залу. Барацьба ў паўцяжкай вазе падыходзіла к канцу. «Паспеў і своечасова», — падумаў ён і ўважліва азірнуўся па баках.**

**(Працяг будзе)**

# КІНО

на 24—29.I.1967 г.

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Długość pocałunku 90" (czeski), 24—25. „Mój stary" (polski), 26—27. „Trema" (USA), 28—29.

**Кляшчэлі**
„Hasło bez odzewu" (bułg.), 24—25. „Ubranie prawie nowe" (polski), 26—27. „Nieznany" (polski), 28—29.

**Дубіны**
„Bandyci z Orgosolo" (włoski), „Urocza gospodyni" (USA), 28—29.

**Нарва**
„Pan Marszałek i ja" (NRF), „Rodzaj miłości" (angl.), 25—29.

**Нараўка**
„Pierwszy dzień mego syna" (czeski), „Wierność" (radz.), 25—29.

**Чыжы**
„Najdroższa" (radz.), „Operacja Y" (radz.), 25—29.

**Дубічы Царкоўныя**
„Noc poślubna" (jugosł.), „12 milionów Holendrów" (holenderski), 25—29.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Karambol" (węgierski), „Romans z nieznajomym" (USA), 25—29.

**Орля**
„Pożegnania" (polski). „Dzielnica szczęścia" (rumuński), 25—29.

**Райск**
„Dom z facjatą" (radz.), „Grzeszny anioł" (radz.), 25—29.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Winnetou" (USA), II s., 24—25. „Nieśmiały w akcji" (radz.), 26—27.

**Міхалова**
„Przemytnik z Piemontu" (franc.), 24—25. „Nieśmiały w akcji" (radz.), 26—27. „Piekło i niebo" (polski), 28—29.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Czarny monokl" (franc.), 24—25. „Mój stary" (polski), 26—27. „Starsza pani bez godności" (franc.), 28—29.

**Мілейчыцы**
„Skrytobójcy" (NRD), 24—25. „Samotna" (radz.), 26—27. „Potem nastąpi cisza" (polski), 28—29.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Zwyczajny faszyzm" (radz.), 24—25. „Ostatni świadek" (NRF), 26—27. „Strzelby Apaczów" (USA), 28—29.

**Шудзялава**
„Niedziela sprawiedliwości" (polski), „Skowronek" (węgierski), 25—29.

**Сідра**
„Gangster i urzędnik" (USA), „Czternaście dni" (jugosł.), 25—29.

**Сухаволя**
„Dzwony dla bosych" (czeski), „Tomasz — oszust" (franc.), 25—29.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Новы Двор**
„Dworek 4-ch dziewcząt" 28—29.

**Ліпск**
„Cisza! Na sali operacja" (radziecki), 28—29.

**Ніва**

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства.

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14.40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP ;Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

Nakład 6.714 Btk. N-1

# БАГАТЫ ВЕЧАР

Мой Кастусь, падаваўшы каровам, зняў з валянкаў калёшы і пачаў круціць радыё.

— А ты што ўжо разбуўся?

— А чаму ты так пытаеш?

— Сёння багаты вечар. Трэба было ўсё пазамыкаць: стадолу, шопку. І Бобіка прывязаць каля акна, бо яшчэ нам хто вокны памалюе.

— Ты толькі не бойся, я буду пільнаваць, — запэўніў мяне і спытаў:

— А ты куды выбіраешся?

— Хачу занесці Паўліне місачку кісялю. Яна нам давала на каляды, дык я ёй занясу на багаты вечар. Толькі не забудзь, Кастусь, натапі печ, бо ў хаце халаднавата.

Узяла я пад хустку місачку з кісялём і пайшла да суседкі. Уваходжу ў хату, а тут дзяўчат набілася, аж кухня трашчыць.

Паўліна хутчэй мяне на ванкер, падсунула мяккае крэсла і пачала сакатаць:

— Бачыце, пазбіраліся ўсе сяброўкі мае Любкі. Варажаць... Таксама, як мы з вамі калісь.

З кухні даходзілі галасы дзяўчат, якія звінелі вясняным павевам маладосці, якія вылівалі перад распаленай печчу сваё дзявочае васковае шчасце. Прыбегла да нас Любка і папрасіла:

— Хадзеце ў кухню, мо' вы ведаеце якія варожбы.

— Пойдзем, Мальвінка, раскажам дзяўчатам, як мы калісь варажылі на багаты вечар, — узяла мяне пад руку Паўліна і мы выйшлі ў кухню.

І пачалі прыпамінаць. А дзяўчаткам толькі гэтага і трэба.

... — і са стрэхаў салому дзерлі і лічылі.

— І дровы з паветкаў насілі бярэмямі ў хату, і таксама лічылі...

— Як да пары, то, значыць, зараз па новым годзе абавязкова выйдзе замуж...

— А ведаеце, Мальвіна, гэта праўда, бо зараз па новым годзе мой Дзміцер прыйшоў да мяне ў сваты і мы зрабілі зараз заручыны.

А дзяўчаткі слухаюць і, адна за другою, цішком шмыгаюць з хаты. Гляджу, ужо адна і другая прынесла па жмені пачарнелай саломы. А Надзька Бяхменава прыперла з цэлым кулём.

У Дзмітра то ўсё пад чарапіцаю, — думаю сабе і аж мне нядобра робіцца: — напэўна скубуць салому з нашага хлеўчыка. А потым, адна за другою, як пачалі насіць цэлымі бярэмямі дровы. Носяць і лічаць, носяць і лічаць. Гавару вам, цэлую кухню завалілі. Аж Паўліна пачала крычаць. Але тут увайшоў у хату падхмелены Дзміцер і кажа:

— Ты, Паўліна, не крычы на дзяўчат, бо наша паветка замкнёна, а дроўцы, відаць, сухія, прыдадуцца...

Тут я не вытрымала і кажу:

— Выбачайце, Паўліна, але я ўжо пайду. Баюся, каб зацерка не прыгарэла.

А Паўліна мяне за руку:

— Пасядзеце, — кажа, — хай раз мужык вам наварыць.

— Не, дзякую, суседачка, але я ўжо пайду.

Гавару вам, ледзь выкруцілася я ад Паўліны. Выйшла я на двор і, што сілы ў нагах, бягу на свой падворак.

А наш Бобік, бедненькі, аж ахрып ад брэху. Хлопцы ўжо знялі з завесаў браму і паспелі памаляваць акно. Добра толькі, што хоць ад падворка. Падходжу да паветкі, дзверы вецер шыбае, а дроў ані паленка. Убягаю ў хату, а ў хаце, як у халадзільні. Радыё ржэ на ўсю іванаўку, а мой Кастусёк, галажыў галаву на рукі, храпе ў рытм на ўсю хату.

**Цёта Мальвіна**



Паклёпнік.

Захар Бірыла

*КАВАЛЕР ТЫ, КАВАЛЕР...*

*Кавалер ты, кавалер,*
*Дзевак не палохай.*
*Пакамечаны каўнер,*
*Гальштук, як панчоха,*
*Памяло — не галава,*
*Чуб доўгавалосы*
*Не стрыжэцца год ці два,*
*Заплятай хоць косы.*
*На даклад у клуб не йдзе,*
*Як другія хлопцы,*
*Бо ў Параскі цэлы дзень*
*Мокне ў самагонцы.*
*Як набраўся тут дзівак*
*Ну, і дагуляўся.*
*Моцна рэзнуўся ў шуляк,*
*Ледзь жывым застаўся.*
*Стаў тады, як чорны цень,*
*Невясёлы, хмуры.*
*Бег дамоў праз лён, ячмень —*
*Пайцякалі куры.*

**НІЧОГА НЕ ВАРТАЯ**

Чалавек з жонкаю прыехаў у Беласток. На вуліцы падыходзіць да рамізніка і кажа:

— За колькі завязеце на Антонюк?

— За 10 залатовак.

— Але нас двaіх — жонка таксама едзе.

— Усё роўна 10 залатовак.

— Бачыш, Агата, — кажа чалавек жонцы, — я заўсёды табе гаварыў, што ты нічога не вартая.

**ЗМЕНА ПРОЗВІШЧА**

— У мінулым месяцы вы распісаліся трыма крыжыкамі, а цяпер падпісваецеся трыма кольцамі. Чаму гэта?

— Бо тыдзень назад я выйшла замуж, дык змяніла сваё прозвішча.

**СПАЗНІЎСЯ**

У вёску прыязджае незнаёмы чалавек. Людзі ў яго пытаюцца:

— Чым займаецеся?

— Я штукар-фокуснік, глытаю агонь.

— Шкада, што вас не было дзесяць дзён таму, як гарэў канец нашай вёскі — маглі б наесціся ўволю.

**ТОЛЬКІ АДНУ...**

— Чаму гэта ты так многа гарэлкі п'еш?

— Як многа? Я толькі адну чарку выпіў!

— Як адну?! Калі ты пры мне ўжо ажно дзесяць выжлукціў!

— Дзіўны ты чалавек, як паглядзіш на цябе. Калі я выпіваю другую чарку, дык раблюся зусім другім чалавекам, ну, а другому чалавеку таксама ці ж не трэба выпіць?



**ЧАМУ**

— Чаму гэта Кастусь вось ужо цэлую гадзіну трымае ў руках тэлефонную трубку і маўчыць?

— Ён размаўляе з жонкай.

**НАЙЛЕПШЫ СРОДАК**

Адзін малады хлопец пытаецца ў сябра:

— Ці ёсць лекі ад кахання з першага позірку?

— Найлепшы сродак — паглядзець на дзяўчыну яшчэ раз.

**У СУДЗЕ**

— Гэта ты ўкраў сасну ў лесе?

— Зусім не я, высокі суд, я шчыра прызнаюся вам, як было: ехаў я праз лес і тут мая вось зачапілася за дрэва, а тое дрэва дый зламалася і — бразь на воз. Што было рабіць? Дрэва цяжкое — я адзін не скіну, ну і зацягнуў да хаты.

**ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ**

Па просьбе Марыі Фалькевіч з Кляшчэляў, Гайнаўскага павета, змяшчаем песню радыётэлеграфісткі з фільма

## Czterej pancerni i pies

To ja —
to ja —
to ja:

Słyszysz, wołam ciebie — ja, Brzoza.
Moje listki potargał wiatr,
Za białymi plecami pożar.

Huczą noce i dnie,
czekam — przyjdź,
czekam — żyj,
czekam — przytul mnie...

To ja —
to ja —
to ja:

Słyszysz, wołam ciebie — ja, Fala.
We mnie odblask ginących miast,
we mnie bitew rozgłośny alarm.

Złom żelazny na dnie,
czekam — przyjdź,
czekam — żyj,
czekam — przytul mnie...

To ja —
to ja —
to ja:

Słyszysz, wołam ciebie — ja, Płomień.
Z iskry burzy, z okruchu gwiazd...
Miły, nie bój się, weź mnie w dłonie.

Płomień wije się, ginie,
czekam — przyjdź,
czekam — żyj,
czekam — przytul mnie...

To ja —
to ja —
to ja:

Słyszysz, wołam ciebie — ja, Łąka.
Świeżą trawą pachnący świat,
nad nią obłok i lot skowronka.

Trawa drży w cichym śnie,
czekam — przyjdź,
czekam — żyj,
czekam — przytul mnie...

To ja —
to ja —
to ja:

Słyszysz, wołam ciebie — ja, Życie!
Gdybyś chciał, gdybyś tylko chciał!
Wierzę — znajdziesz się, wierzę — przyjdziesz!

Poprzez noce i dnie
czekam — przyjdź,
czekam — żyj,
czekam — przytul mnie...



**Праваронілі**

Венесуэльская паліцыя збілася з ног, шукаючы банду злодзеяў, якая на участку паміж горадам Каракас і Ла-Шары ўкрала пяць кіламетраў чыгуначных рэек разам са шпаламі. Паводле чутак, бандыты абяцалі ў наступны раз сцягнуць поезд.



**Службовая тайна**

Чыноўнік аднаго з муніцыпалітэтаў у правінцыі Фландрыя (Бельгія) заявіў, што яго шэф ледзь умее лічыць да дзесяці. Суд прыгаварыў гэтага служачага да трох месяцаў турмы за «разгалашэнне службовай тайны».

**Кішэнны вартавы**

Даволі спрытны аўстралійскі вынаходца так рэкламуе свой новы апарат «Калі на вуліцы на вас нападуць і здадуць нервы, выцягніце з кішэні наш апарат АІДА і націсніце кнопку. Неадкладна пачуеце крык дастатковай сілы, каб яго маглі пачуць людзі, якія знаходзяцца ад вас у радыусе некалькі сот метраў». Рэклама папярэджвае, што толькі не трэба моцна націскаць на кнопку, бо тады крык можа перайсці ў роў, які нагадвае завадскі гудок, што можа збіць з панталыку вашых збавіцеляў.

— А ты ўжо сабраў грошы на машыну?



Найгрубшы панцыр не абароніць чалавека ад няшчасця.

✻

Гуманізм людзі застасоўваюць да сваіх патрэб, і таму ён усяляк выглядае.

✻

Чалавек, які не мае сваіх клопатаў, памагае бедаваць другім.

✻

Кожнай карціне патрэбен адпаведны фон.

✻

Плады навукі бываюць таксама гнілымі і чарвівымі.



Ён верыў у будучыню і таму ўсё тое, што мог зрабіць сёння, адкладаў на заўтра.